**ЧТО ГРИПП ГРЯДУЩИЙ НАМ ГОТОВИТ?**



*Есть ли вакцина?* **2**

**ВЯРНУЛІ ГРОШЫ НА ДВА КОЛЫ**

*Як дзяржава вясковую сям'ю абакрала...* **4**



**Я ВАМ ПІШУ...**

*Лісты аб любві... да "Газеты для вас"* **7**



# ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ-ДРАГІЧЫН-КОБРЫН

выдаецца са студзеня 1997 года 4 — 10 студзеня 2002 г. № 1 (316)

# С РОЖДЕСТВОМ ХРИСТОВЫМ!

## С верой и надеждой



Дорогие о Господи, братья и сестры, верные чада православной церкви, читатели "Газеты для вас". С любовью поздравляю Вас с великим праздником Рождества Господа Бога и Нашего Иисуса Христа, с Новым, 2002 годом. Молитвенно желаю Вам Божиего благословления, помощи, терпения, покрова и защиты Небесных сил.

Празднуя Рождество Христово, мы возносим в этот великий день хвалу и благоговение Господу за милости, дарованные нам в минувшем году, и все те испытания, посылаемые нам, будем принимать с верой и надеждой как на всесильную помощь Божию их преодоления.

Постепенно, год от года, простые люди и всесильные мира сего всё больше стали прислушиваться к заповедям Христовым и исполнять их. Развивается приходская жизнь, укрепляются монастыри, создаются воскресные школы, православные семьи, оказывается посильная помощь пожилым, немощным, инвалидам, заключённым. Наш христианский и гражданский долг — пребывать в согласии и добром сотрудничестве друг с другом, быть взаимно терпимыми, оказывать всем нуждающимся помощь и поддержку.

Церковь всегда была и будет со своим народом во всех испытаниях, которые Господу благоугодно посылать для вразумления и покаяния: в неустроенности, бедности, болезнях, преодолении кризисов.

Пусть беды и временные проблемы не ввергают нас в пагубное отчаяние — будем молиться о страждущих и трудящихся для достижения лучшей жизни. И дай Бог, чтобы государственные власти, общество, каждый человек делали всё возможное для преодоления нынешних нестроений.

Сегодня мы испрашиваем благословение Господне на год наступающий и воскресаем вместе с великим подвижником четвертого века преподобным Ефремом Сириным: "Сей день Твой, Господи, обильно излей на нас щедроты Твои!.. И о чём молим словом, соверши делом!"

Да будет всем нам по молитвам и трудам нашим. Я всем сердцем желаю, чтобы милость Божия сопутствовала каждому из вас на всех путях жизни вашей, чтобы мы переносили трудности сегодняшнего дня христианской мудростью, верой и надеждой.

Любовь Престола да укрепит наши силы и предстательство святого Архангела Михаила да сохранит нас от всякого зла.

**С благословением Господним настоятель Свято-Покровского Храма д. Хомск Дрогичинского благочиния священник Михаил БОРОДИНЧИК.**

# Прызы — атрымайце!

## Падводзім вынікі конкурсу падпісчыкаў

**Святочны конкурс, які рэдакцыя "Газеты для вас" правяла са сваімі падпісчыкамі і якія, у сваю чаргу, павінны былі на працягу 4-х тыдняў даслаць або прынесці на адрас рэдакцыі квітанцыі аб падпісцы (або паведаміць іх нумар), завяршыўся.**

**Усяго ў конкурсе прыняло ўдзел 496 падпісчыкаў газеты (у мінулым годзе было 146 удзельнікаў).**

**Розыгрыш адбыўся 28 снежня ў 16 гадзін у памяшканні рэдакцыі.**

Перш за ўсё хацелася б адзначыць значна ўзрослую колькасць удзельнікаў конкурсу і вельмі шырокую геаграфію распаўсюджвання нашага выдання. Асабліва гэта тычыцца Івацэвіцкага і Бярозаўскага раёнаў, адкуль настолькі актыўна паступалі лісты, што сёння проста немагчыма адзначыць або не адзначыць той або іншы населены пункт. Актыўнасць праявілі многія чытачы з Пружанскага , Драгічынскага раёнаў...

Але бясстрасная рука васьмігадовай Яны ЖУК распарадзілася па-свойму. Такім чынам, прызы ( кошт ад 9000 рублёў да 13000 за кожны) атрымаюць:

**Ігар Андрэевіч ПЕРАВЕРЗЕЎ**, г. Івацэвічы, вул. Гойшыка, д. 31а;

**Алла Іванаўна АЛЯШКЕВІЧ**, г. Бяроза, вул. Тышкевіча, д. 13, кв. 53;

**Жанна Пятроўна ЦАРЭЎСКАЯ**, Бярозаўскі р-н, в. Светач;

**Тацццяна Мікалаеўна ПАЦЯРУХА**, Пружанскі р-н, п/а Слабудка, д. 292, кв. 60;

**Ніна Сцяпанаўна МІКАЛАЕВА**, г. Бяроза, вул. Прывакзальная, д. 51, кв. 2;

**Вера Сяргееўна САЎЧЫК**, Івацэвіцкі р-н, п. Майск;

**Людміла Аляксееўна ФІЛЮТА**, г. Белаазёрск, вул. Казінца, д. 2, кв. 64;

**Таццяна Міхайлаўна ЖЫВАЛОВІЧ**, Івацэвіцкі р-н, г.п. Целяханы, вул. Прамысловая, д. 6;

**Рыгор Парфір'евіч ЧАРНАГОР**, Івацэвіцкі р-н, в. Стайкі, вул. Садовая, д. 7;

**Людміла Васільеўна БАНДАРУК**, г. Івацэвічы, вул. Лясная, 1/3.

Акрамя таго, заахвочвальным прызам узнагароджана **Зоя Макараўна ГАМАЛІЦКАЯ**, адна з самых адданых нашых падпісчыкаў з г. Косава. Яна выпісвае газету з першага яе нумара.

Віншуем усіх пераможцаў (яны павінны прыйсці за прызамі ў рэдакцыю ў бліжэйшы час; тыя, хто жыве ў Бярозаўскім раёне, звяртайцеся на наш карпункт па тэлефоне 58-0-87; у любым выпадку, папярэдне патэлефануйце). Тыя, хто не выйграў, не засмучайцеся: конкурс наш — традыцыйны, будзе і далей.

Галоўнае, мы — разам!

**Аляксандр ГОРБАЧ.**



Аляксандр ГОРБАЧ.

Ідзе розыгрыш...

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Уладзімір Ганчарык мяняе пасаду

**Уладзімір Ганчарык пакідае пасаду старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай (ФПБ) у сувязі з прызначэннем яго намеснікам старшыні Усеагульнай канфедэрацыі прафсаюзаў (УКП) — арганізацыі, якая аб'ядноўвае найбуйнейшыя прафцэнтры краін СНД. Пра гэта ён заявіў 22 снежня на закрытым пасяджэнні прэзідыума Савета ФПБ.**

Як паведаміў старшыня Беларускага прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання Аляксандр Бухвостаў, новым кіраўніком ФПБ можа стаць цяперашні першы намеснік Ганчарыка Франц Вітко. Зараз ён курыруе ў Федэрацыі эканамічны блок пытанняў.

Што да далейшай работы Уладзіміра Ганчарыка, то, паводле слоў Бухвостава, займаючы пасаду намесніка старшыні Усебеларускай канфедэрацыі прафсаюзаў, ён збіраецца працаваць у Мінску, а калькі будзе адказваць за супрацоўніцтва УКП з Беларуссю.

## Заробкі: у лістападзе зноў уніз?

**Як паведамілі ў Міністэрстве статыстыкі і аналізу, за лістапад мінулага года сярэдняя па краіне налічаная зарплата скарацілася на 0,6 працэнта і склала 150.247 рублёў. Падзенне рэальных заробкаў, з улікам змянення цэн на тавары і паслугі, за гэты час аказалася яшчэ большым — 5,4 працэнта.**

Пры гэтым, як вынікае са статыстыкі, у лістападзе зніжэнне заробкаў адзначалася па значнай частцы асноўных галін народнай гаспадаркі. У прыватнасці, па аўтатранспарту яно склада 7,1 працэнта (сярэдні паказчык за мінулы месяц — 142.503 руб.), па банках і калгасах — 6,6 працэнта (256.317 і 73.785 руб. адпаведна), будаўніцтву і саўгасах — 3,4 працэнта (179.123 і 92.225 руб. адпаведна), лясной гаспадарцы — 2,9 працэнта (117.760 руб.), чыгунцы — 2,6 працэнта (157.522 руб.), жыллёва-камунальнай гаспадарцы — 0,9 працэнта (148.233 руб.) і па мастацтву — 0,3 працэнта (108.597 руб.).

Па астатніх сферах намінальныя заробкі крыху ўзраслі. Так, у лістападзе па страхаванню яны павялічыліся на 7,8 працэнта (у сярэднім да 241.521 руб.), фізкультуры і спорту — на 4,9 працэнта (132.515 руб.), авіятранспарту — 4,6 працэнта (242.245 руб.), сацыяльнаму забеспячэнню — 3,3 працэнта (76.854 руб.), сувязі — 2,6 працэнта (170.795 руб.), навуцы і навуковаму абслугоўванню — 2 працэнта (184.237 руб.), ахове здароўя і культуры — 0,7 працэнта (114.540 і 99.346 руб. адпаведна), адукацыі — 0,6 працэнта (113.331 руб.), прамысловасці — 0,2 працэнта (175.549 руб.).

## Павялічыліся тарыфы...

**...НА ПАСЛУГІ РАДЫЁФІКАЦЫІ**

Павялічыліся тарыфы на паслугі радыёфікацыі. Цяпер абаненцкая плата за радыётрансляцыйныя кропкі магутнасцю да аднаго вата ўключна складзе штомесяц 161 рубель.

**... НА ПАСЛУГІ ЭЛЕКТРАСУВЯЗІ**

Змяненні звязаны з ростам эксплуатацыйных затрат і ўстаноўлены ў адпаведнасці з рашэннем Камісіі па каардынацыі дзейнасці рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання па пытаннях цэнаўтварэння пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

У прыватнасці, павялічыліся тарыфы для насельніцтва на паслугі міжгародняй сувязі. Цяпер кошт адной хвіліны размовы ў межах вобласці складае 9,5 рубля, у межах рэспублікі — 19 рублёў. Для прадпрыемстваў і арганізацый (без 20 працэнтаў ПДВ) кошт хвіліны размовы ў межах вобласці — 11,3 рубля, у межах рэспублікі — 22,6 рубля.

Змяніліся таксама цэны на электронныя карткі для таксафонаў.

## Колькі жыць пастанове?

**14 снежня 2001 г. прэм'ер-міністр РБ Генадзь Навіцкі зрабіў сенсацыйную заяву.**

Змест яе наступны: згодна пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, цяпер усё кіраўніцтва дзяржаўных структур, ад старшыні райвыканкама да прэм'ера, будуць атрымліваць сваю заработную плату пасля пагашэння запазычанасці, якая маецца за апошні месяц.

Але такое ў Брэсцкай вобласці ўжо было год таму назад. Старшыня Брэсцкага аблвыканкама Васіль Даўгалёў вусна расparадзіўся аб такім парадку выплат.

Колькі было незадаволенасці! І усё забылася праз месяц. Што ж, паглядзім, колькі жыць прынятай пастанове.

## Обратите внимание!

**Совет Министров Беларуси принял постановление о переносе рабочих дней в 2002 году.**

В соответствии с документом, рабочий день переносится: со 2 января (среда) — на 5 января (суббота); с 10 мая (пятница) — на 18 мая (суббота); с 13 мая (понедельник) — на 25 мая (суббота); с 8 ноября (пятница) — на 16 ноября (суббота).

**(Па матэрыялах рэспубліканскіх газет).**

# ☎ ЧТО ГРИПП ГРЯДУЩИЙ НАМ ГОТОВИТ?

## Несколько слов о вакцинации

**"Здравствуй, "Газета для вас". Звонят вам из Вольковского сельсовета, зовут меня Нина (фамилию называть не буду), мне 31 год. У меня было возникло желание провести вакцинацию своих двух детей против гриппа (обычно, они тяжело переносят эту болезнь), но, оказалось, это уже поздно делать, потому что на сельскую местность, где проживает более 45 тысяч, отпущено только 1000 доз, а на райцентр (где живёт около 20 тысяч) аж 2000. Почему такие пропорции? Кто бы мне прояснил ситуацию на этот счет?"**



**Отвечает Василий Васильевич ЧИЖ, заведующий эпидемиологическим отделом Ивацевичского РЦГиЭ:**

— По большому счёту, делать вакцинацию теперь поздно; чтобы она имела эффект, её проводить надо не менее, чем за три недели до ожидаемой вспышки заболеваний. Люди же делают её накануне заболеваний, а потом удивляются её малоэффективности. Вспышку заболеваний гриппом, кстати, ожидаем в конце января.

В этом году был очень большой спрос на вакцинацию, тем более, что она бесплатная. Мы охватили тот контингент, который прежде всего нуждается в профилактике: хронически больных детей, пожилых людей, а также тех, кто проводит время в местах скопления людей, — милицию, торговлю, медицинских работников; живущих в общежитиях, школах-интернатах.

Не исключено, что в будущем вакцинация будет платной. В Бресте и Минске это уже теперь практикуется.

**Подготовил Александр ГОРБАЧ.**

## Вакцина все же есть

**КОБРИН.** Пока вспышки гриппа на Кобринщине нет. Но она предполагается уже в январе.

А как подготовились?

За ответом я пошла в местный центр гигиены и эпидемиологии. Мой собеседник — враг-эпидемиолог Светлана Асташевич.

Как и в прошлом году, вакцина для лиц с высоким риском инфицирования была закуплена. Но, как и в прошлом году, не всем она досталась.

Медиков, правда, "по желанию" провакцинировали.

Но для работников торговли, сферы обслуживания, взрослых, страдающих хроническими заболеваниями и другим — не хватило, точнее, вакцина не вводилась из-за её отсутствия.

Но на сегодня вакцина в области есть. Правда, только в ОАО "Лодэ", город Брест, ул. Пионерская, 16, для любого желающего.

Цена — порядка 10 тысяч рублей за одну ампулу. Это вакцина нового поколения под названием "Гриппол". И вводят ее только на месте приобретения.

**Нина МАРЧУК.**

## Всего-навсего...

**БАРАНОВИЧСКИЙ район** является самым крупным в Брестской области, но такой статус долго за ним не удержится, если демографическая ситуация и дальше будет оставаться такой же. За 11 месяцев 2001 года родилось всего-навсего 313 младенцев! Зато умерли 967 человек. Смертность превышает рождаемость в три раза! При таких темпах район может стать полупустым и первенство будет удерживать только территориальное.

**Галина СТРОЦКАЯ.**

## Даўгі растуць

### за карыстанне тэлефонамі

**ДРАГІЧЫН.** У кастрычніку мінулага года электрычнаму вузлу сувязі былі вінаваты 8 мільёнаў 300 тысяч рублёў. У лістападзе гэтая сума дасягнула 11 мільёнаў 680 тысяч рублёў.

Хто ж ходзіць у даўжніках? Хто своечасова не разлічваецца з сувязістамі?

Найбольшую запазычанасць мае камбікормавы завод (два мільёны рублёў), у РТМА — 1 мільён 200 тысяч, у аддзеле адукацыі райвыканкама — 870 тысяч, у райаддзеле міліцыі — 870 тысяч, у раённых электрасетках — 171 тысяча рублёў.

У сувязістаў адно пажаданне — адключэнне тэлефонаў. Не хацелася б, але прымушаюць.

**Галіна ВІКТАРОВІЧ.**

## За выратаванне — электракардыёграф

**ДРАГІЧЫН.** Гэта адбылося ў Драгічынскім раёне. На слізкай зімовай дарозе аўтамабіль крута развярнула, і ён апынуўся ў канаве, у ледзяной вадзе. На выручку падаспеў вадзіцель, што праязджаў міма. Аднаго чалавека ён выратаваў, другога — не паспеў. Спярша ў Драгічынскай райбальніцы, а потым у абласной медыкі змагаліся за жыццё свайго пацыента, які трапіў у бяду. І ён застаўся жывым.

У знак удзячнасці пацыент, а ім аказаўся старшыня кааператыва "Моталь", што ў Іванаўскім раёне, Сцяпан Мікалаевіч Шыкалай, падарыў рэанімацыйнаму аддзяленню Драгічынскага РТМА электракардыёграф коштам 680 тысяч рублёў.

Драгічынскія медыкі выказваюць вялікае дзякуй свайму былому пацыенту.

**Сяргей СЛАВІНСКІ.**

## Ні сораму, ні страху

**ІВАЦЭВІЧЫ. Кожны год, у канцы снежня, елка церпіць ад набегаў нашых суграмадзян. Аказваецца, гэтаму дрэву няма спакою і ў населеных пунктах.**



Дзве прыгожыя елачкі раслі каля Івацэвіцкага ГДК. За час навагодніх святаў кроны іх абламалі. Каму яны засцілі вока? Няўжо тых дзвюх тысяч (такім быў прыблізны навагодні кошт елкі) не хапіла нейкаму бессаромніку?

Перад навагоднімі святамі, дарэчы, у рэдакцыю тэлефанавала жыхарка райцэнтра, што жыве па вул. Леніна. Днём, пакуль яна была на рабоце, хтосьці высек адну з дзвюх елачак, што раслі на яе падворку.

Ні сораму, ні страху.

**Аляксандр МІХАЛЕНКА.**

## В райцентр — через Пекин?

**КОБРИН-ПРУЖАНЫ.** По оценке специалистов Комитета Госконтроля Республики Беларусь ежегодно на сельхозпредприятиях республики расхищается не менее 50 тысяч тонн дизельного топлива и чуть меньше бензина.

Свою лепту в этот объём "вносят" и брестчане.

Так, бывший директор ОАО "Кобринский льнозавод" В. Г. Недзведский путем оформления фиктивных путевых листов использовал 2,2 тонны бензина и 0,5 тонны дизельного топлива.

А заместитель председателя колхоза им. Чапаева Пружанского района Н. Н. Чиж также путем сокрытия от учета приходных документов "прихватил" 2,4 тонны дизельного топлива...

Есть примеры, когда 20% от всего расходуемого за год топлива по хозяйству использовано только для автомашин председателя колхоза.

Получается, что транспорт председателя ездит в райцентр через Пекин.

Есть случаи отпуска ГСМ работникам даже ГРОВД.

Списывают ГСМ и на ту технику, которая стоит на ремонте, не говоря уже о завышенных нормах списывания ГСМ.

**Нина МАРЧУК.**

## Браконьер — поджигатель

**БАРАНОВИЧИ.** На минувшей неделе в городе средь бела дня загорелась машина "ГАЗ-66", принадлежащая обществу рыболовов и охотников. Поджигателя задержали. Им оказался некто М. Логиш. Он, собственно, и не отпирался, что поджег — его рук дело. Директор охотобщества говорит, что этот браконьер не раз грозился, что отомстит. Более того, автомобиль не сгорел, его затушили. Так браконьер пообещал, что доведет дело до конца, невзирая на арест и возбуждение уголовного дела.

**Галина СТРОЦКАЯ.**

# АЦАНІЦЬ КОШТ ЖЫЛЛЯ Ў НАШЫМ РЭГІЁНЕ

## Рэпарцёр атрымаў заданне

**Кошт жылля ў межах рэгіёна, зразумела, неаднолькавы. Цана кватэры з усімі зручнасцямі ў розных гарадах — розная. Кватэра ў Баранавічах каштуе больш, чым падобная ў Белаазёрску, а, з другога боку, кватэра ў Целяханах, Косаве ці Ружанах каштуе больш, чым дом (хата) у вёсках Гічыцы, Ястрабель ці Бездзеж.**

Карыстаючыся шматлікімі аб'явамі, пачынаю з найбольш буйнага горада нашага рэгіёну — з Баранавіч. Аднапакаёвую кватэру ў Паўднёвым мікрараёне прадаюць за 4,5—5 тысяч у. а. (у рэшце рэшт, як высветлілася, яе прадалі за 4,5 тысячы у. а.). Двухпакаёвая ў Тэкстыльным мікраёне каштуе ад 6,5 да 7 тысяч у. а.

Разбежка ў цэнах у вялікіх гарадах асабліва вялікая. За трохпакаёвую кватэру ў цэнтры Баранавіч у новым доме на 6-м паверсе (88 — агульная плошча, 52 — жылая, 11,6 — кухня; далей у тэксце такая паслядоўнасць), спасылаючыся на тое, што кватэра вельмі вялікая і пасля еўрарамонту, гаспадыня запрасіла... 25000 у. а. Па яе словах, БТІ (бюро тэхнічнай інвентарызацыі) зрабіла ацэнку кватэры і ацаніла яе кватэру ў 28000 у. а. У той жа час стартавая цана за трохпакаёвую кватэру па вул. Паркавай (63x39x8; метраж кватэры, сапраўды, намнога меншы, чым вышэйзгаданай) складае 9800 у. а., чатырохпакаёвай (81x49x8) — 10500 у. а.

За дом у Баранавіцкім раёне (10 км ад горада; вёска Замошша, агарод — 42 соткі) папрасілі 1000 у. а.

XXX

Звернемся да Івацэвічаў. Найбольш часта сустракаемыя аб'явы — гэта продаж так званых маласямеек. За аднапакаёвую з вялікім пакоем (20 м²) просяць 3000 у. а. Можна патаргавацца.

За двухпакаёвую па вул. Дэпутацкай (жылая плошча 17 і 10 м²; кухня — 8 м²) просяць 4000 у. а. Саступяць не болей 200 у. а.

Аднапакаёвая кватэра звычайных памераў каштуе каля 3,5 тысяч у. а. Двухпакаёвую па вул. Шаўчэнкі, 10 (2 паверх, 40x28x8) прадалі за 4,7 тысяч у. а.

Трохпакаёвую кватэру па вул. Дэпутацкай (67x47x9) у панэльным доме прадаюць за 7,5 у. а. Чатырохпакаёвую па вул. 60 год Кастрычніка (каля гарадской бані) на другім паверсе, з тэлефонам (80x49x9) прадаюць за 8 тысяч у. а. За чатырохпакаёвую па вул. Шаўчэнкі (86x54x9,5), дзе і балкон, і лоджыя абшыты вагонкай, дзе плітка на кухні, у ваннай і туалеце пакладзена да столі, просяць 9,5 тысяч у. а. Можна таргавацца? Канешне!

За дом па вул. Кірава (каля РТМА) просяць 10000 у. а. Тут чатыры пакоі, вада падведзена, але газ — не. Ацяпленне — кацёл. Тут новыя хлеў і гараж, крыху недабудаваная баня.

За новы двухпавярховы катэдж па вул. Гука (непадалёку ад магазіна "Гаспадарчыя тавары"), што па вул. Клютко, з усімі выгодамі просяць 15000 у. а. Катэдж, паведамляюць, давядзены да толку і толькі касметычныя работы патрабуюцца тут.

За двухпакаёвую кватэру ў Косаве (блочны дом; 55x30x8) просяць 3,5—4,0 тысячы у. а. За дом у Косаве, якому 30 гадоў (без зручнасцяў), ёсць калодзеж, хлеў, гараж, надзел — 12 сотак, просяць 2,5 тысячы у. а.

За трохпакаёвую кватэру ў Целяханах (64x58x8,5) на трэцім паверсе трохпавярховага дома папрасілі 3300 у. а.

За дом у вёсцы Заполле (пляц — 58 сотак) просяць 1,5 тысячаў у. а.

XXX

Звернемся да Бярозаўшчыны. Катэдж двухпавярховы, дзе агульная плошча каля 200 м², жылая — 140 м², чатыры пакоі, а кухня — 12 м² (вул. Юбілейная, каля СШ № 2), каштуе каля 20 тысяч у. а. Гаспадар паведаміў, што торг можа мець месца.

За чатырохпакаёвую кватэру ў тыповым панэльным доме па вуліцы Горына-Каляды (2 паверх, дому — каля 15 гадоў, агульная плошча 86 м²) просяць 10 тысяч у. а. Двухпакаёвую ў новым Паўночным мікраёне нядаўна прадалі за 7300 у. а.

За вялікую двухпакаёвую кватэру ў г. Белаазёрск, дзе агульная плошча 57 м², а кухня 12 м², просяць 5300 у. а. Палову дома ў в. Першамайская (два пакоі, кухня, веранда, надзел — 5 сотак) ацанілі ў 1000 у. а.

Дом у в. Здзітава (як паведаміла гаспадыня, 20 мінут язды на веласіпедзе ад Белаазёрска), дзе вялікі агарод, сад, вінаград, два хлявы, летняя кухня, два склепы, калодзеж, дроў на дзве зімы (ацяпленне пячное) каштуе 2000 у. а. Гаспадыня адразу ж прапанавала патаргавацца...

XXX

Як бачыце, калі гаварыць пра кошт жылля ў рэгіёне, трэба адзначыць, што яна вагаецца ў залежнасці ад населенага пункта. Так, жыллё ў Баранавічах каштуе крыху больш, чым у Бярозе ці Кобрыне, а ў апошніх крыху больш, чым у Івацэвічах, Белаазёрску, Драгічыне ці Пружанах.

Значна ніжэй кошт жылля ў тых населеных пунктах, якія носяць назву пасёлкаў або гарадоў, але маюць невялікую колькасць насельніцтва. Размова ідзе пра Целяханы, Косава, Ружаны, Антопаль. Што тычыцца продажу жылля ў вёсцы, то тут градацыя ідзе не ад метражу ці, так бы мовіць, узросту дома, а ад месцазнаходжання.

Вёскі, якія знаходзяцца побач з райцэнтрам ці буйным горадам, аблашчаны ўвагай спажыўца. Дом дзенебудзь за 30—50 кіламетраў ад райцэнтра прадаць за больш-менш сур'ёзную цану проста немагчыма: у тых жа вёсках вялікае мноства хат, дзе ўжо даўно ніхто не жыве і куды, дай Бог, хто-небудзь можа быць і паселіцца.

**Аляксандр ГОРБАЧ.**

# Знакомьтесь: шахматный чемпион


Николай СИНКЕВИЧ.

Шахматный чемпион г. Березы Чеслав Карецкас.

Он появился в конце ушедшего года в г. Берёза. По результатам городского чемпионата, проводившегося с сентября по декабрь, им стал Чеслав Петрович Карецкас. Второе место занял В. А. Друщиц и третье — В. И. Юдицкий.

Приятно порадовала подрастающая смена шахматистов. На уровне взрослых в чемпионате участвовали восьмиклассник Сергей Антонов, СШ № 2 г. Берёзы, и шестиклассник Константин Васильев из той же школы, показав весьма неплохие результаты.

15-16 декабря в г. Берёза прошёл турнир памяти Н. В. Рыжука с участием ведущих шахматистов г. Ивацевичи. Места распределились следующим образом:

1. Е. А Солунин (Берёза).
2. Е. П. Попко (Берёза).
3. А. С. Сычик (Белоозёрск).
4. Г. Б. Будилович (Ивацевичи).
5. В. А. Денисевич (Ивацевичи).
6. Г. М. Левчук (Ивацевичи).

В последнее воскресенье декабря 2001 г. стали известны сильнейшие игроки города по блицу. Места среди тройки призёров распределились следующим образом:

1. Е. П. Попко
2. Ч. П. Карецкас
3. В. А. Друщиц

На середину января 2002 г. в г. Береза запланирован уже районный чемпионат.

**Николай СИНКЕВИЧ.**

# Новае ў праходжанні тэхагляду, але не ўсюды

**КОБРЫН.** Аб наваўвядзенні, якое з новага года плануецца ажыццявіць у двух раёнах нашай рэспублікі — Кобрынскім і Мінскім, — мне расказалі супрацоўнікі ДАІ.

Не хвалюйцеся! Змяненні закрануць толькі адну пазіцыю.

Ужо куплена, але пакуль не ўстаноўлена дыягнастычная ўстаноўка на прадмет прыгоднасці аўтамабіляў да карыстання ў цэлым.

Але, не ўдаючыся ў падрабязнасці, аб іх я раскажу, калі выпрабую там свой уласны аўтамабіль, скажу, што "дзякуючы" навізне, усе "Запарожцы", "Масквічы", "ВАЗы" першых мадэляў і старыя іншамаркі, безумоўна, не атрымаюць "дабро" на эксплуатацыю.

Дрэнна гэта ці добра — пакажа час.

**Ніна МАРЧУК.**

# Чыгуначны вакзал

## пабудаваны нядаўна ў Драгічыне

Чакалі яго доўга. Бо чыгуначны прыпынак не задавальняў многіх жыхароў Драгічына і раёна. І вось пытанне вырашылася. Палову сродкаў на будаўніцтва выдзеліла беларуская чыгунка, а другую палову — прадпрыемствы, арганізацыі раёна. Узводзіла будынак вакзала перасовачная механізаваная калона № 8 (начальнік А. І. Сенькавец).



Святаслаў КАЖАДУБ.

Трэба зазначыць, што будоўля цягнулася нядоўга, і зараз вакзал прыцягвае ўвагу пасажыраў, бо тут ёсць усе выгоды для тых, хто ад'язджаюць і прыязджаюць у райцэнтр.

**Святаслаў КАЖАДУБ.**

# Несмешная "шутка"

**БЕРЕЗА. Не дают покоя лавры террориста № 1 Усамы бен Ладена некоторым нашим согражданам. Пощекотать нервы, знаете ли, хочется, а получается скорее всего — просто обычная глупость.**

Восьмого декабря около полудня в дежурную часть РОВД г. Бреста поступило телефонное сообщение от оператора почтового отделения связи № 13. Оказалось, что при штамповке полученной почты из конверта, пришедшего, согласно обратного адреса, из г. Берёзы, высыпалось порошкообразное вещество зеленоватого цвета. А на самом конверте обнаружена угрожающая надпись "Содержимое находится под высоким давлением. При вдыхании опасно для здоровья".

В течение часа названное почтовое отделение было эвакуировано, вызваны сотрудники областного центра гигиены и эпидемиологии, МЧС, УКГБ и Московского РОВД. Конверт незамедлительно отправили на экспертизу, в результате которой выяснилось, что зловещим зеленоватым порошком было содержимое обычной капсулы витаминов "Green Star", положенной в письмо вместе с таблеткой активированного угля. Неудавшейся же "террористкой", как выяснило расследование, была семиклассница одной из школ г. Берёзы Ольга С. Она таким образом решила пошутить над своей подружкой из Бреста, не предполагая, что из этого может получиться. К сожалению, трагедия, произошедшая в Америке, ничему не учит, раз у нас происходят такие бездумные шутки.

**Николай СИНКЕВИЧ.**

# Навагоднія ... трагедыі

**ІВАЦЭВІЧЫ—БЯРОЗА. Навагоднія святкаванні сёлета, на вялікі жаль, не абышліся без вогненных здарэнняў і трагедый.**

Познім вечарам 2 студзеня адбыўся пажар у адной з кватэр шматпавярховага дома па цэнтральнай вуліцы Івацэвічаў. У выніку — моцна пашкоджаны жылы пакой і маёмасць у двухпакаёвай кватэры Мядзведзіх. Загінуў сын гаспадыні Сяргей Дзмітрыевіч, 1959 г. н.. Прычынай трагедыі паслужыла неасцярожнае курэнне цыгарэты самім загінуўшым, які знаходзіўся ў нецвярозым стане. Гаспадыні дома не было, яна жыве ў вёсцы.

Усяго за першыя сем дзён Новага 2002 года ў Брэсцкай вобласці ў полымі пажараў загінулі 16 чалавек. Так, вечарам 7 студзеня ў жылым доме пенсіянеркі Марыі Кавальчук з в. Маневічы Бярозаўскага раёна здарыўся пажар. Яго полымя пазбавіла жыццяў гаспадыню дома, не двух унучак — дзяўчынак 4-х і 2-х гадоў. Маці дзяўчынак (нявестку гаспадыні) удалося выратаваць. Прычынай гэтай трагедыі аказалася ёлачная ілюмінацыя, якая засталася ўключанай і пакінутай без нагляду.

**Валерый МОЛАШ.**

# ЖЭК рекомендует: на балконы не выходить!

**БАРАНОВИЧИ.** Это действительно так. И так рекомендуют жителям г. Барановичи специалисты городского ремонтно-эксплуатационного объединения жилищно-коммунального хозяйства.

Но это касается не всех. После случая летом 2001 г., произошедшего в г. Кобрин, когда получили смертельные травмы четверо человек, упавших вместе с балконом с четвертого этажа жилого дома, специалисты соответствующей службы города обследовали все здания, построенные до 1970 года, и пришли к выводу, что все они требуют срочного ремонта. А это порядка 1300 балконов. И стоит это больших денег. Пока всю работу по ремонту разбили на пять лет, запросив денег.

А жильцам предложили с опасных балконов убрать тяжести, разобрать застекленные рамы, чтобы уменьшить нагрузку на конструкции.

**Нина МАРЧУК.**

# ВОСЕМ ВОСТРЫХ ПЫТАННЯЎ да старшыні партыі БНФ Вінцука Вячоркі



Вінцук Вячорка аптымізму па-ранейшаму не губляе.

**4 студзеня 2002 года г. Бярозу наведаў Вінцук Вячорка — старшыня шырокавядомай партыі Беларускі Народны Фронт. Прадстаўнік беларускага апазіцыйнага істэблішменту сустрэўся з грамадскасцю і сябрамі мясцовых дэмакратычных аб'яднанняў, а таксама згадзіўся адказаць на восем няпростых для яго пытанняў Вашага карэспандэнта.**

**1**

**— "Страшно далеки они от народа". Ці не знаходзіце Вы гэтую фразу цалкам падыходзячай для сябе? Я маю на ўвазе, папершае, тое, што лідэраў беларускай апазіцыі можна часцей сустрэць у Жэневе ці Боне, чым, напрыклад, у Бярозе ці Івацэвічах, не кажучы ўжо пра вёскі. І, па-другое, рэйтынг і папулярнасць, а значыць — і ўплыў БНФ у сённяшнім беларускім грамадстве, можна сказаць, невысокі.**

— Я за паўтара года наведаў 52 гарады і мястэчкі Беларусі, ад захаду да ўсходу, таму думаю, што з няменшым правам, чым той жа самы Аляксандр Лукашэнка, магу сказаць: "Краіну сваю ведаю!" Што да Жэневы ці Бона, то і там бываць таксама трэба. Калі туды не пускаюць А. Лукашэнку, то трэба, каб нехта там быў і рыхтаваў глебу для таго, каб Беларусь у хуткім часе была ўсё ж прынята ва ўсе еўрапейскія і еўраатлантычныя структуры, каб да нас пайшлі інвестыцыі, крэдыты, каб мы былі прынятыя ў сусветныя фінансавыя інстытуты і хутка выбраліся з таго крызісу, у які нас гэтая ўлада загнала. Наконт рэйтынгу і папулярнасці Фронту скажу з гонарам, што мы маем абсалютна рэйтынг паводле ацэнкі незалежнага сацыяльна-эканамічнага і палітычнага даследавання, і гэта пацверджана амерыканскімі сацыёлагамі, якія ўлетку праводзілі ў нас замеры. Наш рэйтынг парадку 19%, ён меншы толькі за рэйтынг Камуністычнай партыі. Гэта цалкам нармальна. Калі б у нас сёння былі выбары па прапарцыйнай сістэме, часткова так, як у расійскую Думу, то ў нас была б парламенцкая фракцыя працэнтаў у трыццаць пяць.

**2**

**— Пасля траскучага правалу на прэзідэнцкіх выбарах згодна правіл добрага тону беларускія лідэры дэмакратычных партый павінны былі б пайсці ў адстаўку, як гэта звычайна робіцца ў цывілізаваных краінах. У нас тагога не назіралася. Болей таго, Вінцук Вячорка зноў вылучаўся і быў пераабраны на пасаду кіраўніка БНФ. Ці не адраджаюцца ў нас такім чынам "добрыя традыцыі" савецкіх генсекаў?**

— Мяне цяжка абвінавачваць у "генсекаўстве" хаця б таму, што ў 1999-м годзе ў Фронце была вернутая калектыўная форма кіравання і прынцыпе рашэнняў толькі на падставе экспертыз, глыбокага і ўсебаковага аналізу. З таталітарызмам у нашай арганізацыі тады было пакончана. Гэта я заношу ў актыў кіраўніцтва, якое было ў Фронце з 1999-га года. Што датычыцца выбараў, то на іх не было траскучага правалу беларускай апазіцыі. Таму што не было выбараў. Быў спектакль, аплочаны і зрэжысаваны сіламі, варожымі беларускай незалежнасці. Калі параўноўваць нашыя восеньскія выбары з чымсьці іншым, то я параўнаў бы іх з дастаткова прагляным, у шмат раўндаў, баксёрскім паядынкам, з якога абодва бакі выйшлі даволі моцна пабітыя. Так, мы не дасягнулі пастаўленай мэты, але і ўладны рэжым палітычна і эканамічна таксама церпіць крах. Заўважце, што не прайшло і двух з паловай тыдняў пасля 9-га верасня, як спыніўся з прычыны нявыплаты заработнай платы Мінскі трактарны завод. Гэта значыць, што ўсе фінансавыя рэсурсы ў дзеючай улады, як кажуць, "на падсосе". Па-другое, Аляксандр Лукашэнка аказаўся ў жудаснай, і, на жаль, небяспечнай для нашай незалежнасці, падданасці ад расійскіх алігархаў, якія дамагаюцца цяпер ад яго здачы беларускай маёмасці. Ён гэтага не хоча, і зараз добра відаць, у якой ён знаходзіцца нявыкрутцы. Мы будзем працягваць змаганне. А для таго, каб яго працягваць, мае сябры і калегі прапанавалі мне і большыні Фронту застацца ля гэтага стырна. Адразу скажу, што стырно гэта не такое лёгкае і радасцяў яно ніякіх не прыносіць.

**3**

**— Каму б сёння з беларускіх палітыкаў Вінцук Вячорка ўступіў сваё месца старшыні БНФ?**

— Лявону Баршчэўскаму.

**4**

**— Пасля прэзідэнцкіх выбараў у прэсе з'явіліся скандальныя артыкулы Аляксандра Фядуты і Барыса Гунтара, у якіх раскрываецца несумленнасць беларускіх апазіцыйных лідэраў у іх адносінах да сяброў з Захаду. У прыватнасці, там сцвярджаецца, што вялікія сумы грошай, выдаткаваных на правядзенне перадвыбарчай кампаніі, аселі ў кішэнях гэтых самых лідэраў. Як вы можаце пракаменціраваць гэтыя скандальныя выкрыцці?**

— Каб такое адбылося сапраўды, я, відаць, прыехаў бы сюды на шэсцісотым "Мэрсэдэсе", а прыехаў я на самой справе ў звычайнай электрычцы. Але гэта жарт. Самае відавочнае для ўсіх тых, хто назіраў за распаленым Аляксандрам Фядутам і Мікалаем Статкевічам скандалам у прэсе, гэта тое, што скандал з'явіўся менавіта тады і менавіта дзеля таго, каб перасварыць, спляжыць беларускія дэмакратычныя сілы. Ніводзін доказ Аляксандр Фядута так і не прывёў і не прывядзе. Віктар Івашкевіч, адзін з тых, на каго Фядута напаклёпнічаў, падаў на яго ў суд гонару Беларускай асацыяцыі журналістаў, у якой Фядута дагэтуль знаходзіцца. Аляксандр Фядута не прыйшоў на гэты суд гонару, а толькі прасіў перадаць, быццам бы ён меў на ўвазе толькі тое, што перадвыбарчая палітыка дэмакратычных сілаў была няправільнай, не зусім эфектыўнай і гэтак далей. Усе паслявыбарчыя "сенсацыйныя" выкрыцці — гэта быў проста сцэнар, магчыма, прапісаны не ў Мінску. І ён ганебна лопнуў.

**5**

**— У мяне ў руках бюлетэнь "Каліва" №13 за верасень 2000 г. На вокладцы даецца Вашае тагачаснае выступленне ў Брэсце пад загалоўкам "Гарачая восень-2000 павінна вырашыць усё". Прайшла восень-2000, 2001, і што вырашана? Наколькі палітык, кіраўнік партыі, можа даваць такія галаслоўныя прагнозы? І ўвогуле, на якія інфармацыйныя і аналітычныя крыніцы Вы абапіраецеся ў падрыхтоўцы сваіх прагнозаў?**

Па-першае, палітык павінен бачыць аптымістычную перспектыву, а не заганяць сябе, сваю партыю, грамадства ў песімістычны тупік. Трэба ўмець натхняць людзей. Па-другое, у 2000 годзе, нагадаю, адбыліся і масавыя вулічныя акцыі, і агульнабеларускія сінхронныя акцыі, звязаныя з тым жа байкотам у дваццаці чатырох гарадах адначасова. Такога ніколі ў нас не было раней. Пасля 1996-га года якраз падзеі 2000 года паказалі, што беларускія незалежніцкія сілы, калі яны аб'яднаныя, здольныя выводзіць на вуліцы дзесяткі тысяч людзей. На вялікі жаль, настроі грамадства нагадваюць хвалю: яны то вымушаюць выходзіць людзей на вуліцы, то махаць на ўсё рукой. Мы яшчэ пабачым мітынгі ў дзесяткі тысячаў на вуліцах Мінска. Праблема вырашыцца тады, калі энергія сацыяльнага пратэсту пяройдзе ў энергію пратэсту палітычнага. А грунтуемся мы на лічбах сацыялагічных служб, як беларускіх, так і замежных, у тым ліку амерыканскіх, што працуюць у Беларусі. Рэгулярна праводзім "мазгавыя штурмы" з запрашэннем псіхолагаў, сацыяльных псіхолагаў і спецыялістаў па палітычнай рэкламе. Мы гэтым пачалі займацца адносна нядаўна, недзе года паўтара таму. Я спадзяюся, што наступныя нашыя крокі будуць болей прафесійнымі.

**6**

**— Ці не падаецца Вам, што назва "Беларускі Народны Фронт" не зусім удалая, калі не сказаць болей? У памяці людзей яшчэ не сцёрся фронт 1941-45 гг. і яны проста баяцца гэтага слова.**

— Гэта сітуацыя, як з тым цыганом: "Ці гэтых дзяцей адмыем, ці новых народзім." Калі цяпер думаць пра змену назвы Беларускага Народнага Фронту, калі няма свабоды тэлевізіі, свабоды радыё, агульнадаступнай свабоднай прэсы — гэта азначае ператварыцца ў нікому невядомую маргінальную структуру. Я ўжо сказаў, што ў нас ёсць рэальны рэйтынг, рэальная вядомасць. Людзі, калі чуюць, што нехта выходзіць змагацца за незалежнасць, кажуць: "Гэта бээнэфаўцы выйшлі". І самае важнае тут для нас — не дапускаць надалей паразаў, паказаць людзям, што мы дбаем не толькі пра высокія палітычныя матэрыі, але і пра іхняе штодзённае жыццё. Каб яны пабачылі, што бээнэфаўцы бароняць і лёс нашай краіны, і лёс кожнага чалавека. Я ганаруся назвай "Беларускі Народны Фронт", і я не думаю, што нам яе трэба мяняць ва ўгоду нейкай кан'юнктуры.

**7**

**— Якую адзнаку Вы паставілі б сабе асабіста за 2001 год?**

— Тройку з плюсам.

**8**

**— Вы патрыёт?**

— Мне здаецца, што само слова "франтавец" з'яўляецца сінонімам слова "патрыёт", прычым, гэта патрыёт адказны. Той, які не проста трубіць, што ён любіць Бацькаўшчыну, а і яшчэ спрабуе нешта для яе рабіць.

**— У такім разе, як бы Вы пракаменціравалі выказванне Бенджаміна Франкліна: "Патриотизм — последнее прибежище негодяев"?**

— Гэта тыповая падмена паняццяў, звязаная з тым, што імперскі шавінізм часта называюць патрыятызмам. Мы добра ведаем, што ў цяперашняй расійскай завядзёнцы патрыятычнай прэсай і патрыятычнымі сіламі называюць газету "Завтра", Эдзіка Лімонава, імперыялістаў. Іх называюць патрыятычнымі альбо камуна-патрыятычнымі сіламі. У гэтым сэнсе з Бенджамінам Франклінам можна абсалютна пагадзіцца. Пабачце, у нас ідзе гаворка пра патрыятызм шмат стагоддзяў паняволеных, пра патрыятызм тых, хто адраджае дзяржаўнасць сваёй Бацькаўшчыны, хоча гэтую дзяржаўнасць зрабіць цывілізаванай, дэмакратычнай і паважанай у свеце. Гэта проста абсалютна розныя рэчы.

**— Дзякуй за адказы!**

— Пытанні сапраўды былі вострымі.

## Дасье "Газеты для вас"

**Вінцук ВЯЧОРКА.** Старшыня БНФ "Адраджэнне" і Партыі БНФ.

Нарадзіўся 7 ліпеня 1961г. у г. Брэст. Закончыў філфак БДУ і аспірантуру НАН Беларусі. Працаваў у Мінскім педагагічным універсітэце, нам. гал. рэдактара часопіса "Спадчына".

У 1979 г. удзельнічае ў заснаванні "Беларускае майстроўні" — нефармальнай арганізацыі маладых беларускіх патрыётаў. Лідэр згуртавання "Талака", якая ў 1987 г. развілася ў "Канфедэрацыю беларускіх суполак" — першую агульнанацыянальную структуру патрыятычных арганізацый. Яна стала ў 1988 г. арганізацыйнай асновай БНФ, а В. Вячорка — адным з заснавальнікаў Фронту.

З 1994 г. — намеснік старшыні БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ.

На VI з'ездзе БНФ "Адраджэньне" і IV з'ездзе Партыі БНФ у кастрычніку 1999 г. абраны старшынёй, а ў снежні 2001 г. яшчэ раз пераабраны на гэтую пасаду. Жонка Ірына — матэматык. У сям'і Вячоркаў трое дзяцей.

**Паласу падрыхтаваў Мікалай СІНКЕВІЧ, фота аўтара.**





# "Я НЕ БУДУ КУРИТЬ И НЮХАТЬ ТАБАК"

**Сегодня этот человек уже в Америке, но шесть лет назад он жил в Барановичах и как личную трагедию воспринимал беду каждого алкоголика и наркомана. Неофициальная статистика утверждает, что пристрастившихся к наркотику в республике 80—90 тысяч, к водке и того больше. Виктор Лобановский считал, что беда общества — его личная беда и вынашивал идею создания реабилитационного центра. Уехал учиться в Хорватию, долго и внимательно изучал опыт работы международной организации "Вызов подросткам", которая объединяет 60 стран мира и ставит своей целью помощь наркозависимым.**

— Дерзайте! — одобрил его помысел главный психиатр республики, на приеме у которого побывал Лобановский.

— Хочу в центр лечиться!

Некоторые алкоголики и наркоманы просто в ногах валялись, чтобы их взяли в реабилитационный центр. С трудом находили для них место, а жаждущие излечения... не являлись. Это вчера они хотели лечиться, потому что не было денег на очередную дозу наркотика и ломка донимала, а сегодня друг-товарищ подбросил шприц, а с наркотиком и жизнь обрела иные краски. Причин не явиться в центр набиралось много: вчера мать плакала и выгоняла из дому, а сегодня молчит; вчера участковый грозил, что отправит в ЛТП, а сегодня его место занял другой и никто уже не беспокоит. Не каждый задумывается над тем, что если проблема живет внутри тебя, то спрятаться от нее нельзя, уйди хоть на край света, она все равно будет с тобой.

— Каждый без исключения наркоман и алкоголик в первую очередь должен иметь желание вылечиться и начать новую жизнь, иначе ничего не получится, — уверен директор центра Михаила Балакирев. — Приходит к нам человек, подписывает соглашение, где сказано, что у нас он не должен курить, а потом идет в туалет и тихонечко это делает, а потом еще и врет. Нужен ли он нам? Нет, этот человек занимает чужое место. Он также легко уколется или выпьет. Если нет твердой внутренней убежденности, желания отказаться от пагубной привычки — мы не поможем.

Миссия "Возвращение" действует при Церкви Христиан Веры Евангельской. Действует успешно, благодаря программе реабилитации многие вновь обрели нормальную человеческую радость жизни. "Возвращение" помогло каждому из них вернуть себя.

— Это случается только благодаря тому, что программа христианская, — уверен Михаил Витальевич. — Просто как люди мы бы ничего не добились. Медики лечат умело и старательно, а человек все равно не теряет зависимости от наркотика. У нас же вместо пагубного пристрастия он обретает Бога. И с Богом проживает всю дальнейшую жизнь. При церкви ЕХБ проводятся регулярные встречи с наркоманами. Каждый вторник и четверг они приходят и вместе с психологами ведут диалог о жизни: нынешней — зависимой, прошлой — полной иных увлечений и забот, и о будущей, где не будет места ни наркотику, ни водке. Человек задумывается: так ли это хорошо — пить и колоться. Будущего-то нет. И если кто-то твердо поверит в нынешнюю бесцельность своего существования, значит, есть надежда, что он станет нормальным человеком. Цель таких встреч — выработать мотивировку, проще говоря, человек должен созреть — настало время лечится!



IREX/ProMedia.

...Хойники, Гомельская область. Здесь расположен кризисный реабилитационный центр. Он невелик. Только 20 человек — 12 мужчин и 8 женщин — он может принять. Лечение сложное во всех отношениях. Мало хотеть вылечиться, надо еще найти в себе силы выдержать 4 месяца практически полной изоляции. Ты сам уже ничего не можешь, должен придерживаться чужих правил, жить по иным, нежели раньше, законам. Это очень сложно, и не каждый выдерживает. Пробираются наружу притворство, лживость, нежелание полностью избавиться от своего пристрастия. Таким безо всякого сожаления говорят "до свидания".

"...Мы рады видеть Вас в миссии "Возвращение" и хотим, чтобы вы знали, что Вас любит Иисус. У Него есть цель и план по отношению к Вашей жизни. Последующие соглашения предназначены не для того, чтобы связать или ограничить Вас или сделать Ваше пребывание в миссии неприятным..." И далее следует список соглашений — администрация центра и студент (именно так называют поступившего на очередную ступень реабилитации) должны договориться, что на протяжении 8 месяцев многое будет нельзя.

1. Я не будут курить и нюхать табак.
2. Я не буду рассказывать о своей прошлой уличной жизни.
3. Я не буду иметь никаких отношений с лицами противоположного пола.

И еще 12 таких вот "Я не буду". Они дают понять, что наша жизнь — лодка со множеством дыр, и если залатать только одну, остальные все равно не дадут возможности спастись. Восемь месяцев — это немало, есть время обо всем подумать, ибо только изменив мышление, можно окончательно избавиться от пагубного пристрастия. Поэтому программа и задействует всего человека — и тело, и душу. Телу нужен физический труд, и поэтому студенты первую половину дня работают в мастерских — трудотерапия налицо. А вторая половина дня отведена для души. Излечить ее сложнее, но специалисты пытаются, помогает Библия и молитвы.

— Мы уверены, что изменяет не столько сама терапия, сколько общение с терапевтом. Есть Великий терапевт, на него вся надежда. И программа наша — Божья, — говорит М. Балакирев. — Мы регулярно посещаем церковь. Вот этот аспект как раз и вызывает самые большие сомнения как у верующих людей, так и у верующих из других конфессий, дескать, не заменяется ли одна зависимость на другую? Был наркоманом, а стал фанатиком от веры. Что лучше, что хуже?

— А вы поговорите с родственниками бывших наркоманов и алкоголиков. Пусть они ответят, — Михаил Витальевич немногословен. И, видимо, прав. Если человека ничего не сдерживает изнутри, если у него нет душевного равновесия, никакая терапия ему не поможет. Скажем, приехали через месяц родственники к студенту, привезли среди гостинцев и бутылочку. Как устоять, как удержаться, хочется ведь. И иные именно так и срываются. Или уезжая в отпуск после длительного пребывания в центре, вдруг встречают массу соблазнов и не могут устоять.

Тверд только тот, кто уверовал в Господа. Именно вера и не дает ему поскользнуться.

**Галина СТРОЦКАЯ.**

# Новая царква

## будзе пабудавана ў г. Драгічын

**ДРАГІЧЫН.** На сходзе прыхаджан у Драгічынскай Свята-Срэценскай царкве было вырашана стварыць у горадзе другі праваслаўны прыход і хадайнічаць аб будаўніцтве яшчэ аднаго храма. Чаму? Дзеючая царква пабудавана ў 1862 годзе, яна невялікая і не заўсёды можа ўмясціць усіх праваслаўных вернікаў, асабліва ў святочныя дні.

Вызначана ўжо месца, дзе будзе пабудаваны новы храм — гэта адрасу за бібліятэкай паблізу новага парка ў раённым цэнтры. Вядома, будаўніцтва — вельмі нялёгкая справа.

Цяпер справа за фінансамі — трэба сабраць сродкі, неабходныя для вырабу праектна-каштарыснай і іншай будаўнічай дакументацыі для пачатку будоўлі.

Яшчэ канчаткова не вызначана, у гонар каго са святых будзе ўзводзіцца храм. Аднак многія мясцовыя праваслаўныя хрысціяне схіляюцца да думкі, што царква павінна насіць імя нашай беларускай святой Ефрасінні Полацкай.

Тым больш, што ўраджэнцу Драгічыншчыны мастаку Мікалаю Кузьмічу ўдалося адрадзіць святыню беларускага народа — Крыж Ефрасінні Полацкай, які заняў сваё спрадвечнае месца ў Полацкім Спаса-Ефрасінскім манастыры.

Думаецца, што гэта будзе справядліва, калі імя Ефрасінні Полацкай будзе прысвоена новай царкве.

**Галіна ВІКТАРОВІЧ.**

## Праваслаўны каляндар на 2002 г.

**7.01** — Ражджаство Хрыстова
**19.01** — Богаяўленне Гасподняе (Хрышчэнне)
**15.02** — Стрэчанне Гасподняе (Грамніцы)
**7.04** — Благавешчанне Прасвятой Багародзіцы
**28.04** — Уваход Гасподні ў Іерусалім (Вербніца)
**5.05** — Светлае Хрыстова Уваскрасенне. Вялікдзень
**14.05** — Радаўніца. Памінанне спачылых
**13.06** — Узнясенне Гасподняе
**23.06** — Дзень Святой Троіцы (Пяцідзесятніца)
**7.07** — Нараджэнне Іаана Хрысціцеля
**12.07** — Святых Першавярхоўных апосталаў Пятра і Паўла
**19.08** — Праабражэнне Гасподняе (Яблычны Спас)
**28.08** — Успенне Прасвятой Багародзіцы (Першая Прачыстая)
**21.09** — Нараджэнне Прасвятой Багародзіцы (Багач, Другая Прачыстая)
**27.09** — Уздвіжанне Крыжа Гасподняга
**14.10** — Пакроў Прасвятой Багародзіцы (Трэцяя Прачыстая)
**4.12** — Уводзенне ў храм Прасвятой Багародзіцы

**ПАСТЫ**
**18.03—4.05** — Вялікі пост
**1.07—11.07** — Пятроў пост
**14.08—27.08** — Успенскі пост
**28.11— 6.01.2003 г.** — Пост перад Калядамі (Піліпаўка)

## Каталіцкі каляндар на 2002 г.

**1.01** — Свята Маці Божай Марыі
**6.01** — Аб'яўленне Панскае (Тры Каралі)
**13.01** — Хрост Пана Езуса
**2.02** — Ахвяраванне Пана Езуса (Маці Божай Грамнічнай)
**13.02** — Папялец
**19.03** — Урачыстасць святога Юзафа
**24.03** — Вербная нядзеля
**31.03** — Вялікдзень
**1.04** — Панядзелак Вялікадня
**7.04** — Свята Божай Міласэрнасці
**8.04** — Звеставанне Найсвяцейшай Марыі Панны
**9.05** — Унебаўшэсце Пана Езуса
**19.05** — Спасланне Духа Святога
**26.05** — Свята Найсвяцейшай Тройцы
**30.05** — Свята Найсвяцейшых Цела і Крыві Хрыста
**7.06** — Свята Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса
**24.06** — Яна Хрысціцеля
**29.06** — Свята Святых Апосталаў Пятра і Паўла
**6.08** — Перамяненне Пана Езуса
**15.08** — Унебаўзяцце Найсвяцейшай Марыі Панны
**8.09** — Нараджэнне Найсвяцейшай Марыі Панны
**14.09** — Узвышэнне Святога Крыжа
**29.09** — Дзень Святых Арханёлаў
**1.11** — Усіх Святых
**2.11** — Дзень Задушны
**24.11** — Свята Хрыста—Валадара Сусвету
**9.12** — Беззаганнае зачацце Найсвяцейшай Марыі Панны
**25.12** — Божае Нараджэнне
**29.12** — Свята Святой сям'і

## Мусульманскі каляндар

**(1422—1423 Хіджры)**

**Курбан-Байрам** — 22.02—24.02 — свята ахвяпрынашэння Алаху
**Новы 1423 год Хіджры** — 15.03
**Ашура** — 24.03 дзень посту (стварэнне Адама, выратаванне Ноя, забойства Хусейна)
**Меўлюд** — 24.05 дзень нараджэння Прарока Мухамеда
**Рагаіб-ноч** — ноч з 11 на 12.09 — ноч вялікіх жаданняў
**Мірадж-ноч** — з 3 на 4.10 — начное падарожжа Прарока
**Берат-ноч** — з 21 на 22.10 — ноч даравання грахоў
**Рамадан** (IX месяц па мусульманскаму календару, месяц посту) — 6.11—5.12
**Кадыр-ноч** — з 1 на 2.12 — у гэту ноч Прароку Мухамеду пачалася перадача Карана
**Рамазан-Байрам** — 6.12—8.12 — свята, прысвечанае заканчэнню посту

## Яўрэйскі каляндар

**(5762 год)**

**Пурым** — 26.02 (14 адара) — свята ў памяць аб выратаванні яўрэяў ад знішчэння ў часы панавання Персіі
**Песах** — 27.03 (14 нісана) — 4.04 (22 нісана) — свята зыходу з егіпецкага рабства
**Шавуот** — 16.05 (5 сівана) — 18.05 (7 сівана) — свята Падаравання Торы
**Ціша Бе-Ав** — 18.07 (9 ава) — дзень разбурэння Іерусалімскага Храма, галоўнай іудзейскай святыні свету, поўны пост
**Рош-а-Шана** — 7.09 (1 цішрэя) — яўрэйскі Новы год
**Ханука** — 30.11 (15 кіслева 5763 г.) — 7.12 (22 кіслева) — свята Цуда пры асвячэнні Іерусалімскага Храма

